# ЖАНОЦКАЯ СТАРОНКА № 10

## ЖАНЧЫНЫ Ў ЖЫЦЬЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

### ДА 90-Х УГОДКАЎ НАРАДЖЭНЬНЯ

(Заканчэньне; пачатак у №№ 280-281 і 285)

**„Маці родная, Маці-Краіна"**

Максім Багдановіч глыбака паважаў жанчынаў прысьвяціў ім шмат вершаў ,уздымаў іх на п'едэстал. Ня так часта, аднак, сустракаў узаемнасьць у вадказ, а здаралася, што жанчыны ставаліся прычынай ягоных трагічных перажываньняў і болю.



**Максім і маці-Марылька (1893 г.)**

Дзіцём страціў маці, хутка па тым зьнікла й другая апякунка — добрая,, уважлівая да яго Аляксандра Волжына (другая жонка Максімавага бацькі — Адама). Сіратою, самотным рос будучы паэта. Адно дазнаньне засталося ў яго з таго трагічнага часу: ведаў, што верным яму застаўся толькі абраз Маці Божае, што вісеў у ягоным маленькім пакойчыку — Сыкстынская Мадонна Рафаэля — ды пазьней роднай маткай сталася Краіна-Беларусь:

Маці Родная, Маці-Краіна,
Ня суцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

**Каханьне — жанчыны**

Жыцьцё йшло наперад. Ад глёрыфікацыі Рафаэлевай Мадонны, Маці Божае, ды маці роднае, якую памятаў і памяць пра якую глыбака захаваў у сэрцы сваім, давялося апяваць і іншых, звычайных дзяўчат і жанчын. Але часамі ад ідэялізацыі ня лёгка было пераходзіць да рэальнасьці.

З характару глыбокі, але сьціплы й сарамлівы, да таго-ж гэткі самотны, Максім, сустрэўшы жанчыну (дзяўчыну), з радасьцяй і энтузіязмам хапаўся за нагоду зблiжэньня. Але часта радасьць сустрэчы канчалася трагічным эпілёгам.

Адзінае каханьне, што ня прынесіла болю, не зраджала, зь якога чэрпаў натхненьне й сілу — была ўлюблёнасьць ў вабраз Мадоннаў ды каханая краіна-Беларусь.

Вернымі былі яшчэ й дзеці. Чула любіў Максім дзяцей, і дзеці любілі яго. Аддаваў ім поўную ўвагу, прысьвячаў ім вершы, так лёгка выклікаў у іх сьмех, радасьць. Рупіўся глыбака пра іхную будучыню. Перад сьмерцяй дакончваў беларускі лемантар для дзяцей.

У 1908 годзе памёр на сухоты старэйшы Максімаў брат — Вадзім, а ў 1909 годзе ўвесну ў Максіма пачаў разьвівацца тубэркулёз, пайшла кроў з горла. Бацька павёз яго ў Ялту. Там жыў ён у пэньсіёне „Шалаш". Было там і таварыства моладзі: дзяўчаты, хлопцы. Пазнаёміўся там Максім з М. А. Кіціцінай і „закахаўся рамантычна ў дзяўчыну, містычна настроеную", як падае ў успамінах пра сына бацька Адам. Хто яна была, вестак амаль няма, але ёсьць вершы, якія прысьвяціў ёй Максім, якія й праліваюць часткава сьвятло, падказваючы нейкае няшчасьце, магчыма сьмерць тае дзяўчыны. Зацытуем два вершы, ёй прысьвечаныя:

Я, бальны, бяскрыдлаты паэт
Помню, раз пазабыў сваё гора, —
Гэта чуда зрабіў Ваш прывет.
Я — бальны, бяскрыдлаты паэт!

Мо жыцьця майго верш ўжо сьпет,—
Дык няхай Вам хоць песьня гавора,
Як бальны, бяскрыдлаты паэт
На гадзіну забыў сваё гора.



**Максім Багдановіч (1915 г.)**

Верш гэты быў напісаны на адваротным баку фатаграфіі, але чамусьці высланы ня быў (упяршыню апублікаваны у 1927-ым годзе).

Другі верш „Цемень" з прысьвятаю: „Ахвярую М. А. Кіц-най":

Я сяджу без агню. Я стаміўся, прамок.
Над зямлёю — імгла, у душы маёй змрок.
О, як пуста у ёй! О, як холадна жыць!
Але вось цераз цемень маланка блішчыць,
Асьвячае мне вобраз Хрыста, яго крыж...
Ажываеш, здаецца ,душою гарыш.
Але толькі чаму-ж так малы гэты час?!
Зноў навокала цемнь. Сьвет зірнуў і пагас.
Не глядзіць на мяне ясны вобраз Хрыста.
Над зямлёю імгла, у душы пустата.

***

Усё праходзе — і радасьць, і мукі.
Але будзеш мне помніцца ты, —
Броўкі цёмныя, вузкія рукі
І галоўкі радок залатыя.

**Наведвае Беларусь (Вільню)**

У 1911 годзе Максім Багдановіч едзе на Беларусь. Два дні прабыў у Вільні. Усяго два дні, але пакінуў у спадчыне высакамастацкія творы. Першае месца зь іх належыцца вершу „Касьцёл сьв. Ганны". Вось поўны ягоны тэкст:

Каб залячыць у сэрцы раны,
Забыць пра долі цяжкі глум,
Прыйдзеце да касьцёла Ганны.
Там зьнікнуць сьцені цяжкіх дум.

Як лёгка да гары, як красна
Узносіць вежы ён свае!
Іх зарыс стройны ў небе ясна
Ізломам дзіўным устае.

А вастрыя іх так высока,
Так тонка ў вышу неба тнуць;
Што міг — і ўжо, здаецца воку,
Яны ў паветры паплывуць.

Як быццам з грубаю зямлёю
Расстаўся стройны, лёгкі гмах
І вось, чаруючы красою,
Уступае на блакітны шлях.

Глядзіш, — і ціхнуць сэрца раны,
І забываеш долі глум.
Прыйдзеце да касьцёла Ганны.
Там зьнікне горыч цяжкіх дум.

Касьцел сьв. Ганны запраўды ўнікальны. Ці дзіва, што ня мог ад яго адвесьці вачэй Напалеон, калі пабачыў яго, аглядаючы Вільню, ды каротка, але так моцна выказаўся: „Каб мог, як найлепшую здабычу на далонях вывез-бы гэты касьцёл зь Вільні ў Парыж".

Наведаўся Максім і ў рэдакцыю „Нашай Нівы". Але не пабачыўся там ні зь Янкам Купалам, якога ня было ў памешканьні, ні зь Якубам Коласам, які сядзеў тады ў турме ў Менску. Дасьціпны Максім пакінуў Купалу эпіграму-экспронт:

Я купала не малое,
Ды благое, наравістае дзіця,
Трэба ,каб яго давесьці да пуцьця,
Паліваць часьцей халоднаю вадою.
М. Багдановіч

Калі рэдакцыю „Нашай Нівы,, адведвала Канстанцыя Буйла ды зацікавілася паліцаю над сталом Я. Купалы з квадратнымі гнёздамі, ёй дазволілі адкрыць папку зь вершамі Купалы (хоць было ёй тады ўсяго 14 гадоў, але яна пісала ўжо вершы). На самым версе ляжала эпіграма Багдановіча. Усе прысутныя працаўнікі і Янка Купала, які быў пры гэтым, вельмі сьмяяліся з такога трапнага жарту.

У рэдакцыі „Нашай Нівы" Максім Багдановіч меў і нагоду прыглядзецца да калекцыі слуцкіх паясоў, разглядаў беларускія старадрукі. Пад уражаньнем іх ягоная фантазія ўжо бачыла тытулы новых гістарычных твораў, зарысоўваліся цыклі вершаў пра старажытную культуру народу — тое, што пасьля было напісана: цыкль „Старая Беларусь", зь вершамі „Летапісец", „Перапішчык", „Слуцкія ткачыхі" ды іншыя.

Два дні Максіма Багдановіча ў Вільні выдатна ўзбагацілі беларускую літаратуру.

Каб Багдановіч пазнаёміўся зь беларускай вёскай, яму параілі паехаць у хвальварак Ракуцёўшчына, што ён і зрабіў. Гэта быў маляўнічы куток Беларусі: лес, пры хвальварку сад, а каля яго крыніца, у вёсачцы колькі сялянскіх хатаў. Там паэта спаткаў дзяўчынку, у якой знайшоў рысы спагадлівае маці-Мадонны ды напісаў прыгожы верш, што дапоўніў задуманы ім цыкль „Мадонны". Больш за 17 вершаў напісаў Максім Багдановіч у Ракуцёўшчыне. Ён быў шчасьлівы, пабачыў свой край, свой народ ,наслухаўся родных песьняў, бачыў у Вільні здабыткі культуры. І аформілася крэда: беларускі народ жыве й будзе жыць.

І Максім прысягнуў сабе, што з выбранага шляху ён ня зыйдзе. Пасьля гэтага побыту на роднай зямлі ён стаўся яшчэ больш адданым абаронцам беларушчыны. Вярнуўся ў Яраслаўль поўны сілаў і радасных праектаў на будучыню...

**Ізноў хвароба, ізноў жанчына**

Але хвароба перасьледавала Максіма. У 1915 годзе самому давялося ехаць у Стары Крым. На другі дзень па прыездзе туды спаткаў там Клаву, зь якою пачаў сыстэматычна праводзіць час. Мала ёсьць вестак пра Клаву. Яна, як выглядае, прынесла Максіму мукі ды цяжкія перажываньні.

Захаваліся вершы да яе ў расейскай мове. Як прыкладам:

Забудется многое, Клава,
Но буду я помнить всегда,
Как в сердце шипела отрава
Любви, и тоски, и стыда, —
Тебя в темно-синем платочке
И песню ,что пела мне ты:
Прошли золотые денечкі,
Осталися только мечты.

Таямніцу Клавы выпадкова выдалі Максімавы супрацоўнікі зь яраслаўскае газэты „Голас". Мікалай Агурцоў, загадчык літаратурнага аддзелу рэдакцыі ,пісаў пасьля:

„Ад мяне М. Багдановіч не хаваў, што знаходзіцца ў інтымным ліставаньні з асобай, зь якой пазнаёміўся ў Крыме й пакахаў... Мне здавалася ,што ягоныя пачуцьці моцна адбіваюцца й на ягоным здароўі. Адчуваў, што ён перажывае крызыс".

А другі супрацоўнік тае-ж газэты А. Цітаў у ўспамінах пра Максіма сьветчыць: „Часамі ,у хвіліны шчырасьці, Максім Адамавіч дзяліўся са мной сваімі сардэчнымі тайніцамі. Ён расказаў пра сваё захапленьне жанчынай. У 1915 годзе Максім спаткаў даму й пакахаў яе, але, нажаль, гэтае каханьне прынесла яму шмат суму ды пашкодзіла ягонаму здароўю: яна была замужняя, і яны не маглі жыць разам".

**Крыніца жывое вады**

У 1916 годзе ў канцы верасьня Максім Багдановіч прыехаў у Менск, пайшоў адразу ў Беларускую хатку. Спаткалі яго там усе працаўнікі Беларускага таварыства помачы ахвярам вайны. Пасяліўся Максім у вялікім пакоі Зьмітрака Бядулі на ціхой вуліцы. Хутка з усімі пасябраваў. Расказвае пра яго ў сваіх успаміах Зоська Верас, якой ён шчыра прызнаваўся: „Чуюся паміж вамі добра, як у сям'і. Маю толькі адно прыкрае перажываньне, якое адбірае мне супакой. Можа вы чулі, што я ўжо даўжэйшы час перапісваўся з аднэй асобай зь Менску. Завязалася лістоўная прыязьнь, шчырасьць. Вось прыехаўшы й пазнаёміўшыся асабіста, уся мая прыязьнь да яе разьвеялася. Не магу ёй адказаць тым самым, не магу. Ці-ж гэта можа не балець?"

Так лёгка змог дзяліцца сваймі тайніцамі, давяраў поўнасьцяй сваім прыяцелям-мянчанам, давяралі ды палюбілі Максіма за гэта й яны.

Ён з хваляваньнем расказваў часта Зосьцы Верас (з дому Людзьвіка Савіцкая, па мужу Войцік) пра тое, што яму моцна балела: „Я ўжо пагадзіўся са сваёй хваробай і з тым, што жыць засталося ня шмат, але вельмі цяжка мне, што не змагу мець сям'і. Я так люблю дзяцей. Ведаеце, калі я пачаў пісаць і друкаваць вершы — нажаль, не ў сваёй мове, а па-расейску ,бо я гадаваўся ў расейскім асяродзьдзі, як ні горка да гэтага прызнацца, я напісаў калыханку і аддаў яе ў друк, падпі-

(Працяг на 6-ай бач.)

## АЛІМПІЙСКАЯ ЧЭМПЁНКА Ў ВЕСЛАВАНЬНІ



**Алена Хлопцава**

У леташніх Алімпійскіх гульнях, ад градзе, Менску, Кіеве й Таліне, ад Беларусі было 43-х спартсмэнаў і здабылі яны 15 залатых мэдалёў, 10 сярэбраных і 9 бронзавых (разам 34 мэдалі).

У газэце „Голас Радзімы" № 2 за сёлетні год былі пералічаныя 10 лепшых спартсмэнаў Беларусі, а паміж іх тры жанчыны. Гэта: Нэлі Кім, Алена Хлопцава й Тацьцяна Івінская. Усе дзесяцёх былі ўдзельнікамі леташняе Алімпіяды, за кажным склалася даўгая гісторыя дарогі на Алімп.

Гэтта пазнаёмімся хоць з аднэй такой гісторыяй.

Мянчанка Алена Хлопцава ўваходзіла ў склад зборнае каманды ў акадэмічным веславаньні. Да ўдзелу ў Алімпіядзе шлях быў даўгі й цярністы, а яшчэ больш цяжкі й працаёмкі — на Алімп.

Узыйшла на той шлях Лена Хлопцава малой дзяўчынкай, вучаніцай 3-ае клясы. Здарылася так, што яна прыйшла ў Палац воднага спорту зь сяброўкай ды з зайдрасьцяй сачыла, як тая плавала ў басэйне. Упрасіла бацькоў і сама апынілася ў спартыўнай школе плаваньня для дзяцей.

З часам Лена Хлопцава заняла пятае месца ў плаваньні, а пасьля сталася чэмпіёнкай рэспублікі ў маладзежнай групе ды нарэшце майстрам спорту. А тады прыйшоў чэмпіянат рэспублікі, а за ім — Савецкага Саюзу.

Былі ў Лены й няўдачы: было 10-е месца на сусьветным чэмпіянаце ў Галяндыі, 3-е месца (бронзавы мэдаль) у Новай Зэляндыі ў 1979 годзе ды 4-е месца ў Югаславіі. Усё-ж лятуцела пра Алімпіяду, хоць балелі рукі ды нылі мазалі ад практыкаваньняў. Вясьлярская чацьвёрка, у якой яна была, распалася. Ды надарылася выпадковая іншая нагода. Відаць, доля наканавала Лене застацца вясьляркай. Гэтым разам у двойцы (партнэрка ейная не Беларуска). Перамога на чэмпіянаце СССР адчыніла ім дарогу да таго лятунку, што завецца Алімпам.

На самой Алімпіядзе давялося заўзята змагацца з канкурэнткамі: чэмпіёнкамі ў веславаньні з Усходняе Нямеччыны. А ўсё-ж сталася, што Лена зь сяброўкай перамаглі, першымі пераселклі лінію фінішу. Радасная ўсьмешка асьвяціла твар пераможніцы Лены, залаты алімпійскі мэдаль стаўся рэчаіснасьцяй.

Лена захавала, аднак, сьціпласьць. Чалавек, кажа яна, мае права з гонарам сказаць „я — алімпійскі чэмпіён", але ён ня мае права патрабаваць узамен нейкіх там выгодаў. Алена Хлопцава ненавідзіць хцівасьць і зайздрасьць.

У нядаўна праведзенай Вялікай Маскоўскай рэгаце, у якой узяло ўдзел адзінаццаць краінаў, большую колькасьць першых месцаў здабыла зборная Савецкага Саюзу. У каманьдзе асабліва добра выступілі беларускія вясьляркі. Залатыя мэдалі ў двойцы заваявала алімпійская чэмпіёнка Алена Хлопцава. А ў складзе вясьлярскае васьмёркі былі чатыры Беларускі: Людміла Кашкалда, Тамара Дулуб, Антаніна Кажарская й Марыя Ермакова.

Беларусь, як бачым, мае выдатных спартсмэнаў і спартсмэнак. Нажаль, савецкая імпэрыялістычная палітыка ў спорце не дае магчымасьці спартсмэнам Беларусі выступаць на міжнародных спаборніцтвах ад імя свае рэспублікі.

**Зіна Аўсянік**

 



# ЖАНОЦКАЯ СТАРОНКА № 10

## ЖАНЧЫНЫ У ЖЫЦЬЦІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

(Заканчэньне)

саўшы псэўдонімам. Усе, хто яе чытаў, думалі, што гэтую калыханку напісала жанчына, і то жанчына-маці. У гэты твор я ўлажыў усё сваё пачуцьцё".

Міналі месяц за месяцам. Як сьветчыць Зоська Верас, Максім браў удзел „у спэктаклях беларускае школы ў Ратамцы на сустрэчы сястры Льва Талстога. Беларуская школа выступала ў народнай вопратцы, у праграме быў сцэнічны абразок, дэклямацыі й хор. Максім Багдановіч зьявіўся на канцэрт у белай вышыванай кашулі, падпярэзанай прыгожым паяском, такі вясёлы...



Зьлева направа стаяць: Максім Горкі і Адам Багдановіч, сядзяць Кацярына Пешкава (Волжына) жонка М. Горкага з сынам і яе сястра Аляксандра Багдановіч (Волжына) жонка А. Багдановіча (мачыха Максіма)

Новы 1917-ты год сустракалі разам у Беларускай Хатцы, было шмат Беларусаў зь сем'ямі.

Рыхтаваліся да адкрыцьця беларускіх школаў, працавалі над гэтым.

Максім узяўся падрыхтаваць вершы да першае чытанкі пасьля лемантара. Праседжвалі даўгія гадзіны вечарамі над гэтай працай. Удзень Максім быў заняты на заработкавай працы.

Прайшла зіма, пачаліся дажджы. Максім чуўся хворым, тэмпэратура была высокая. Тады прыяцелі сабралі грошай ды выправілі яго ў Ялту на лячэньне. У канцы лютага Максім Багдановіч выехаў зь Менску, якога больш ужо і не пабачыў.

### Думкі у дарозе дамоў

Вяртаўся да дому Максім, пакідаючы вялікую грамаду шчырых прыяцеляў. Дык і ня дзіва, што ў часе падарожжа у яго ўяўленьні ўсплывалі спагадлівыя, добрыя твары суродзічаў. Як жывыя ўсталі перад вачыма дзяўчаткі — сёстры Зьмітрака Бядулі. Пасябраваў зь імі ды із самым Зьмітраком, бо жыў-жа ў ягонай кватэры ў Менску. І хоць прадбачлівыя жанчыны папярэджвалі Бядулю аб загрозе для дзяцей заразіцца сухотамі ад Максіма, Зьмітрок ігнараваў тыя перасьцярогі. „Як-жа я магу яму нешта пра гэта сказаць?" спадзяваўся на ласку Божую. А тыя дзяўчаткі ціхусенька гадзінамі сядзелі чакаючы ў пакоі Максіма, калі той адарвецца ад пісаньня, ды пачне зь імі гуляць, жартаваць, расказваць казкі.

Ехаў да хаты, а дзе тая родная хата? — задаваў у думках сабе пытаньне, ці яна ў Яраслаўлі, ці вось там на радзіме, зь якою разьвітаўся? Ці можа той маленькі пакойчык у Яраслаўлі назваць роднай хатай, які дзяліў з малодшым братам Лёвам? Усьмешка зьяўлялася пры гэтай думцы на твары Максіма. Лёва з замілаваньня здольны матэматык, не знаўся на паэзіі. Ніколі ён не перашкаджаў у працы брату. Але горш было з суседам, бо, каб трапіць у пакой Максіма даводзілася прайсьці праз пакой Пеці Гапановіча, стрыечнага брата па бацьку, які толькі і чакаў сутычкі з Максімам. І тэма дыскусіяў была заўсёды тая самая: абразьлівае высьмейваньне беларускае нацыі, беларускае мовы, адмаўленьне існаваньня беларускае культуры. Ах, які-ж немагчымы быў той Пеця — кружыліся думкі ў галаве Максіма. Колькі нэрваў яму парваў, колькі дарагога часу на тыя спрэчкі змарнаваў — і нараджалася цьвёрдая пастанова ўсё ў той дарозе: — больш гэтага ня будзе!

А думкі плывуць і турбуюць: Хто яго там чакае ў той хаце? Бацька? — хіба што не, ён заўсёды заняты сваімі справамі. Мачыха? і пры гэтым задумоўваецца, нешта нявыразнае і прыкрае яму на гэта адказвае сумленьне. Мачыха Аляксандра — яна-ж родная сястра ягонае маці. Якія былі ў яго суадносіны зь ёй? Ды ці наагул якія былі?



Аляксандра Мякота (трэйцяя жонка Адама, мачыха Максіма).

Ведаў добра, як ставілася да яго цётка, не рабіла ніякай розьніцы паміж сваймі 5-ма сынамі ды трыма Марыльчынымі, для ўсіх была аднолькава ласкавай, добрай. Ведаў Максім, як пакутавала цётка не ад непасільнай працы фізычнай, дагляжаючы 8-ёх хлопцаў, але ад свайго становішча няшлюбнае жонкі, яна і ейныя 5 сыноў насілі прозьвішча маці: Мякота. Бацька занядбаў аформіць вымаганую фармальнасьць зьвярнуцца да вышэйшай царкоўнай улады па дазвол на шлюб. Амаль ніхто не наведваў бацькоў Максіма з гэтае прычыны, а калі здаралася, што зайшлі прыяцелі бацькі — абслугоўвалі іх сыны. А была Аляксандра жанчына добрая, глыбокае думкі, адукаваная. Суседкі празвалі яе „дзікункай", так „дзікункай" той зрабіў яе бацька Максіма — і Максім пра гэта ведаў. І толькі цяпер — перапоўненае дабрынёй да яго суродзічаў у Менску сэрца адазвалася, шкадаваў цётку, пастанавіў не цурацца яе.

На груповай фатаграфіі: Горкі з жонкай, і Адам Багдановіч з другой жонкай.

Прыязьнь Максіма Горкага да Адама Багдановіча была найбольш цэннай, задавальняючай ягоныя амбіцыі падзеяй. Адным словам ганарыўся і цаніў гэтае сяброўства бязьмежна.

Аднак яму не пашанцавала. Аляксандра Волжына памерла пасьля аднаго году супольнага жыцьця ад родаў. А калі зьявілася ў хаце Адама Аляксандра Мякота, ды хутка і прыйшоў на сьвет ейны сын, Максім Горкі парваў усякія адносіны з Адамам на даўжэйшы час.



Ганна Валасовіч — стрыечная сястра Максіма

Зьмяшчаецца яшчэ тут адна фатаграфія стрыечнай сястры Максіма Ганны Валасовіч, якая сталася ведамай як аўтарка вартасных аб'ектыўных успамінаў пра Максіма Багдановіча.

Прыпадкам трапіў ёй у рукі „Вянок" Максіма, паспрабавала чытаць — мала зразумела, прабавала другі раз і трэйці — пачала разумець. Шукала дапамогі і знайшла яе. Зь ёю скантактавалася Ніна Ватацы, прысылала ёй кнігі — крытычныя агляды, рэцэнзіі. Наведвала Менск, пасябравала з прыяцелямі Максіма зь Менску. І паступова, тыя ўсе, на пачатку незразумелыя для яе кнігі пра творчасьць Максіма — зразумела.

Паспрабавала свае пагляды ды ўражаньні запісваць, пачалі іх друкаваць. Такім чынам і сталася яна адной з найбольш беспасярэдня паінфармаваных (бо добра ведала і Адама Багдановіча, які вучыў яе ўсіх мудрасьцяў інтэрнацыянальных літаратур). І хоць пацела над тымі клясычнымі творамі, пазнаёміўшыся зь „Вянком" сына, свой голас падала за яго.

Закончым гэты агляд ейнымі словамі:

„Сэрца сьціскаецца ад смутку і болю, калі ўспамінаю жыцьцё Максіма. Застаўшыся сіратою з пяці год, ён быў такі адзінокі.

Народжаны для цяплыні, ён так мала ведаў яе ў жыцьці.

Нават не збылося яго жаданьне памерці ў родным краі. Скончыў ён сваё жыцьцё ўсімі пакінуты. Ні аднаго чалавека, нават чужога, ня было пры ім. Ня было каму паціснуць руку ў апошнія мінуты.

Так родныя не ўсьцераглі Максіма, на Бацькаўшчыну ён прыехаў ужо зусім хворы. „Крыніца жывой вады" ўжо не магла яму даць сілы".

Зінаіда Станкевіч

## ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР УЛ. ГЛЫБІННАГА

Сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва пісьменьнік Уладзімер Глыбінны (Сядура), на ўшанаваньне Максіма Багдановіча, 90-я ўгодкі ад нараджэньня якога прыпадаюць на сёлета, напісаў аповесьць пра Багдановіча — „Пад знакам лебедзя" (пад гэткім знакам старадаўнага беларускага роду Завішаў быў выдадзены ў 1913 годзе першы зборнік паэзіі Багдановіча „Вянок"; выданьню гэтае кніжкі дапамагала грашыма княгіня Магдалена Радзівіл, што была з роду Завішаў).

У сыботу 20-га чырвеня сёлета ў памешканьні Фундацыі імя П. Крэчэўскага Ўладзімер Глыбінны пазнаёміў запрошаных на вечар сяброў БІНіМ і гасьцей з урыўкамі із свае аповесьці. У цэнтры твору — кароткі пэрыяд у жыцьці М. Багдановіча ў 1911 годзе, усяго колькі тыдняў, якія паэта правёў у вёсцы Ракуцёўшчына, што каля Радашкавічаў (гл. пра гэта таксама артыкул З. Станкевіч пра М. Багдановіча ў гэтым нумары газэты).

У Ракуцёўшчыне ды падарозе туды, у Вільні, М. Багдановіч меў нагоду сустрэчаў і гутарак з братамі Антонам ды Іванам Луцкевічамі, выдаўцамі газэты „Наша Ніва", з Аляксандрам Уласавам, рэдактарам-выдаўцом „Нашае Нівы", Вацлавам Ластоўскім ды іншымі цікавымі пэрсанажамі, што пакінулі свой сьлед на творчасьці Багдановіча.

З архіўных матар'ялаў, аднак, вельмі мала засталося пра побыт Багдановіча ў Ракуцёўшчыне. Асноўным матар'ялам да напісаньня аповесьці пісьменьніку сталіся скупыя ведамкі пра гэты пэрыяд, апублікаваныя ў беларускім савецкім і замежным друку, ды некаторыя архіўныя матар'ялы, а таксама самая творчасьць Багдановіча, ягоныя вершы таго часу, якіх ён напісаў шмат. У васноўным, аднак аповесьць Глыбіннага „Пад знакам лебедзя" — вынік творчага ўяўленьня аўтара.

У ваповесьці перадаюцца гутаркі Максімавы з выдаўцамі й супрацоўнікамі „Нашае Нівы" на грамадзкія, нацыянальныя ды бытавыя тэмы, апісваецца асяродзьдзе, у якім жыў паэта, заняткі навакольных людзей, песьні, уражаньні, настроі, працэс паэтавае літаратурнае творчасьці.

Па праслуханьні ўрыўкаў аповесьці адбылася дыскусія пра мастацкія асаблівасьці твору, пытаньне ягонае гістарычнае верагоднасьці, былі выказаныя пажаданьні аўтару, якія ён прыабяцаў улічыць перад тым, як канчальна здаць аповесьць у друк. Дарэчы, частка аповесьці зьявілася ўжо ў друку ў выдаваным у Дэтройце часапісе „Беларускі Сьвет".

Вёў вечар праф. Антон Адамовіч. Пасьля адбылася пачостка на ўшанаваньне Ўладзімера Глыбіннага ды ягонае Спадарыні.

Я. З.

## СЬВ. ПАМ. СОФІЯ ШЧОРС



29. 6. 1981 адыйшла ў вечнасьць Софія Шчорс, пакінуўшы ў жалобе двух сыноў, сястру Веру (у Польшчы), 5 унукаў і 3 праўнукі.

Софія Шчорс (дзявоцкае прозьвішча Сенька) — дачка Мікалая і Ганны нарадзілася у Новым Сьвержні Стаўпецкага павету на Беларусі.

Муж ейны Васіль Шчорс памёр у Нямеччыне ў 1947 годзе. Ён быў прыяцелем Якуба Коласа. У трылёгіі „На ростанях" выступае як „Базыль Тройчанскі".

Пахаваная Софія Шчорс на беларускім могільніку ў Саўт Рывэры ў штаце Нью Джэрзі.

***

Спынімся абшырней на пройдзеным Софіяй Шчорс жыцьцёвым шляху, на ейнай сьветлай постаці ды на тым, што сказалі людзі пра яе за жалобнымі сталамі.

Праводзіла Нябошчыцу на вечны супакой 2-га ліпеня раніцай вялікая грамада родных, прыяцеляў і знаёмых. Маліліся за супакой ейнае душы ў капліцы пахавальнага бюро, у царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкае ды на могільніку. Урачыста адслужыў Літургію і Паніхіду а. Сьвятаслаў Коўш пры ўдзеле царкоўнага хору. Ціха сплывалі сьлёзы людзей: шкада было, што перастала біцца сэрца гэтае сільнага характару, але такога чулага сэрца ды справядлівага розуму, жанчыны. Шкада было прыяцельку, што рэагавала на жыцьцё суродзічаў Беларусаў, працавала ахвотна й ахвярна на грамадзкай ды царкоўнай ніве ў Саўт Рывэры.

На паховіны зьехаліся людзі з розных штатаў Амэрыкі, блізкіх і далёкіх, хоць і дзень быў будні-працоўны. Відаць адчувалі патрэбу апошні раз глянуць на сваю прыяцельку-супрацоўніцу — суседку ды разьвітацца зь ёю.

Ціха апусьцілася труна на могілках, пакрылі магілу шматлікія вянкі.

Софіі Шчорс (Шчорсіхі, як пераважна яе называлі суродзічы) на гэтым сьвеце не стала.

У вялікай залі Грамадзкага Цэнтру зыйшліся на абед, а пасьля, беларускім звычаем, было й жывое пасьмертнае слова — ўспаміны.

Першым прамовіў сваяк Нябожчыцы сп. Аляксандар Сенькевіч. Паклікаўся на адвечны звычай Беларусаў памянуць добрыя ўчынкі чалавека, што адыйшоў ад нас ды падзяліцца тым, што найбольш ўрэзалася ў памяць.

Дык і падзяліўся весткамі, добра яму, як сваяку, ведамымі:

„Сьв. пам. Софія Сенька нарадзілася ў сялянскай сям'і. У восем год страціла бацьку. Мусіла пакінуць школу, каб стацца памочніцай маці, сям'я складалася з чатырох дзяцей. Працавала на гаспадарцы, палюбіла зямлю ад маленства. Замуж выйшла вельмі маладая за настаўніка. Выгадавала трох сыноў ды парупілася пра іхнюю адукацыю. Пабудавалі на сваёй сядзібе, ў Новым Сьвержні, дом. Час тады быў трывожны (1904 г.). Іхны дом стаўся нібы кватэрай штабу: зьбіраліся там людзі пераважна настаўнікі-рэвалюцыянеры, а між імі й Якуб Колас.

„Я прыглядаўся да гэтых зборак — расказваў далей сп. А. Сенькевіч, — а калі мне было 12 год і сам ўліўся ў тыя вытокі нацыянальнае плыні. Увайшла ў гэты рух і сьв. пам. Соня. Яна не прыпрагалася ў чужы воз, як гэта рабілі іншыя, так і сыноў сваіх узгадавала ды вывела іх на беларускі нацыянальны шлях".

А пра характар Софіі сказаў: „Думкі пра яе ў мяне заўсёды дадатныя й радасныя, мела яна і дадатны ўплыў на сваіх прыяцеляў, на знаёмых. Ды самае важнае яшчэ трэба сказаць: яна любіла зямлю, песьціла яе, абрабляла, зь пяшчотай гадавала расьліны.

Няхай-жа тая зямля будзе ёй лёгкай".

Наступным прамоўцам быў сп. Антон Шукелайць зь Нью Ёрку, які сказаў:

„Цяжка на сэрцы, ня хочацца верыць, што тая бадзёрая, ды актыўная сьв. пам. Софія Шчорс ужо адыйшла ад нас.

„Богу й Бацькаўшчыне прысьвяціла сваё жыцьцё. Была прыкладнай Маткай. Трох сыноў сваіх выгадавала на патрыётаў Беларускага Народу. Выгадавала зь іх людзей, якія ў розных умовах не баяліся наражацца навет на сьмерць, каб прынесьці дапамогу іншым.

„Нябожчыца была заўсёды дзейная. Яна брала ўдзел у мастацкіх выстаўках із сваімі па-мастацку зробленымі экспанатамі".

Найшчырэйшае спачуваньне склаў прамоўца ад былых сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні сыном і іх сем'ям.

Сваю пашану ды прызнаньне да Нябожчыцы Софіі й спачуваньні сям'і у кароткіх словах выказалі сп. сп. Мікалай Сіцько й Міхась Сенька.

У вадказе др. Мікола Шчорс падзякаваў а. Сьвятаславу Каўшу, харыстым, прамоўцам ды склаў асьветчаньне: „Тое, што я, Барыс і Ігар заўсёды стараліся даць свой сьціплы ўклад у беларускую справу, мы заўдзячвалі толькі нашай Маці. Яна чытала нам урыўкі з „Новай Зямлі" Я. Коласа які жыў толькі 7 міль ад нашае сядзібы. Як-жа хораша былі апетыя ім нашыя наднёманскія ваколіцы...

„Яна на сто працэнтаў выканала свой абавязак у дачыненьні да рэлігіі, да сям'і, беларускага грамадзтва і ў афармленьні нацыянальнага „я", якое мы, верныя Ейнай навуцы нясём праз жыцьцё.

Уканцы склаў падзяку ад імя брата Ігара й сем'яў братоў ды сваго прысутным, якія прыйшлі ў працоўны дзень ушанаваць „Памяць нашай Маці, падтрымаць нас ды падзяліць з намі гора".

А ў мяне ,пішучы гэтыя словы, паўстае перад вачыма сьв. пам. мая Маці, якую ведала Нябожчыца Софія. Я памятаю, як прыехаўшы ў нейкіх гандлёвых справах у Нясьвіж, — а спрыт да гандлю мела Софія Шчорс не абыякі — заходзіла ў наш дом ды ўзбуджаная расказвала маёй Маці, як і што там на тым прадажна-вымэнным рынку (пераважна рагатае жывёлы) пайшло.

Дзівіліся мы з мамай, колькі энэргіі, спрыту ды й выняткавай кемлівасьці было ў маладое прыгожае жанчыны. Абдарыў яе Провід шмат якімі талентамі.

Вечная Памяць, Дарагая, адпачывай спакойна. Жыцьця марна не растраціла, дабро пакінула сыном, сяброўкам ды супрацоўнікам у спадчыне.

Зінаіда Станкевіч

 

## ШЛЮБ НАДЗІ ШПІГАНОВІЧ І ВІКТАРА МІХАЛЮКА

Шлюб адбыўся ў сыботу 23 траўня сёлета ў Манчэстэры ў царкве БАПЦ. Абрад шлюбу выканаў Мітрафорны Пратаярэй а. Янка Абабурка. Добра пяяў хор пад кіраўніцтвам сп. Х. Кажаневіча.

Віктар — сын спадарства Янкі й Лёлі Міхалюкоў, ведамае беларускае сям'і ў Лёндане. Сп. Я. Міхалюк шмат гадоў займае становішча старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, актыўны сябра Рады БНР і Англа-Беларускага Таварыства. Дзейны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці ўвесь час бярэ й сп-ня Л. Міхалюк.

Надзя — дачка сьведамага Беларуса Аляксандра й Украінкі Кацярыны Шпігановічаў. Дзякуючы стараньням бацькоў, маладая пара добра валодае беларускай мовай. У жнівені летась Віктар і Надзя настала перабраліся ў Манчэстар. Тут-жа адразу ўлучыліся ў арганізацыйнае беларускае жыцьцё.

Калі сп. М. Яськевіч, зь незалежных ад яго прычынаў, папрасіў звольніць яго ад абавязкаў сакратара Беларускага Клюбу, на ягоную прапанову быў выбраны й заступіў яго на становішчы сакратара сп. Віктар Міхалюк, а Надзя згадзілася быць за скарбніка. Віктар — таксама скарбнік аддзелу ЗБВБ. Маладая пара ўзмоцніла арганізацыйна беларускую калёнію ў Манчэстары.

Сватам на вясельлі, якое прайшло ў традыцыйным беларускім стылі, быў сп. А. Зданковіч. Сярод 250 асобаў гасьцей былі ангельскія прыяцелі беларускае справы: праф. Джэймс Дынглі, праф. Арнальд МакМілін, сп. Гай Пікарда.

З Амэрыкі прыбыў на ўрачыстасьць сп. Віктар Тур, школьны сябра маладога, зь якім яны разам скончылі Беларускую Школу імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане. Віктар Тур быў галоўным шаферам, ён-жа прачытаў мноства прывітаньняў, прысланых маладым.

Праф. Дынглі, выкладчык Рэдынскага ўнівэрсытэту, прывітаў маладую пару надзіва прыгожай беларускай мовай, за што дастаў буру воплескаў.

Вясельле прайшло вельмі ўдала, было, як кажуць, што й выпіць і закусіць. Весела гулялася і малодшым і старэйшым дапозна.

Хочацца йшчэ раз прывітаць і бацькоў і маладых з гэтай радаснай падзеяй ды пажадаць усім ім шчасьця, здароўя ды спорнае працы на беларускай грамадзкай ніве. Сто год!

**М. Стаўпіскі**

## МАЕ ЎРАЖАНЬНІ З АМЭРЫКІ

Задума дачкі й мая падацца ў падарожжа навакол сьвету з мэтай наведаць прыяцеляў і знаёмых была зусім неспадзяванай для нас. А паколькі былі й клопаты ў рэалізаваньні гэтага праекту, не ставала часу на ўсё, дык неяк да мае сьведамасьці не даходзіла, што гэтая задума можа ўжыцьцявіцца. Толькі седзячы ўжо ў самалёце, я раптам адчула, што мы запраўды едзем у сьвет, і разам з гэтым паўстала пачуцьцё радасьці, але адначасна й трывогі ды няпэўнасьці. Насунулася шмат пытаньняў, на якія толькі цяпер, па скончэньні шляху праз цэлыя Злучаныя Штаты Амэрыкі, па спатканьнях і гутарках із шмат якімі сябрамі з далёкае мінуўшчыны ды з новымі знаёмымі, я магу знайсьці адказы.

Сяньня мы ў Айцоў Марыянаў у Лёндане. Нашае трохтыднёвае падарожжа праз Паўночную Амэрыку скончанае, але мы яшчэ поўнасьцяй пад ягоным уражаньнем, якім і хацелася-б падзяліцца.

Мы наведалі нашых блізкіх знаёмых у Лёс Анджэлесе, Чыкага, Бэры, Тароньце, Кліўленьдзе й Нью Ёрку. Перад вачыма, як на экране, перасоўваюцца малюнкі маладое вясьнянае прыроды, цудоўныя адценьні зелені лясоў, дзе час-часам бялеюць камлі бярозаў, усьпененая магутнасьць Ніягары, прыгаство мастоў, старых будынкаў, сьвятыняў, веліч ньюёркаўскіх небасягаў-волатаў. Гэтыя вобразы застануцца ў памяці надоўга, бадай, назаўсёды.

Аднак, найбольш хвалявалі спатканьні амаль па сараку гадох са старымі знаёмымі, радасьць пабачыць і распазнаць у зьмененым гадамі аблічча рысы, захаваныя ў памяці, бясконцыя гутаркі.

Найбольш шырокае й шчырае ліставаньне не замяніць беспасярэдняе жывое гутаркі. Тут снаваліся ўспаміны аб супольным, даўно перажытым, аб няўдачах і дасягненьнях у будаваньні першых падвалінаў жыцьця далёка ад роднага краю, аб цяжкасьцях бягучага дня й намаганьнях іх перамагчы, аб працы й плянах на будучыню.

Вось гэтыя турботы аб захаваньні й забясьпечаньні беларускага жыцьця на будучыню я адчувала ў кажнага ўпаасобку і ў цэласьці, як супольнае грамады: у цудоўным „Полацку"; сярод дзесяткоў тысячаў беларускіх кнігаў у Ньюёркаўскай Бібліятэцы; у новых ідэях Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня; у клопатах аб друкаваным і жывым беларускім слове; у трывозе пра нацыянальную сьведамасьць свае моладзі.

Я бачыла толькі ў Нью Ёрку й ваколіцах чатыры цудоўныя царквы, пабудаваныя коштам і працай вернікаў-Беларусаў, каб прадоўжыць і захаваць веру, перададзеную нам дзядамі й прадзедамі.

З пабачанага й пачутага я шмат чым захаплялася, шмат з чаго дзівілася, але, нажаль, і да сяньня існуюць непаразуменьні й цяжкасьці якіх, думаецца, пры добрай волі можна было-б усьцерагчыся.

За гэтыя кароткія тры тыдні я перажыла й пабачыла зьмест даўгіх у жыцьці кажнага чалавека блізу 40 гадоў ды шмат чаго з дасягненьняў Амэрыкі на працягу ейнае гісторыі.

Сяньня я цешуся, што мы адважыліся выбрацца ў гэтае падарожжа. Мы шмат чаго навучыліся й зразумелі.

Мы бясконца ўдзячныя за гасьціннасьць і шчырасьць, зь якою нас спатыкалі й праводзілі, за апеку й турботы пра нашыя выгоды, якія мы заўсёды адчувалі. Успаміны аб гэтым застануцца для нас назаўсёды дарагімі.

**А. Каранеўская**

Ужо выйшла з друку
**трэцяя кніга**
**„ГАРАВАТКІ"**
**К. Акулы**
**БЕЛАРУСЫ, ВАС ЧАКАЕ ЗЯМЛЯ"**
286 бачын вялікага фармату,
выд. „Пагоня", Таронта.

Трэцяя кніга „Гараваткі" абыймае пэрыяд апошняй вайны ў Беларусі. Чытач сустрэне тут зноў ведамых гэрояў — Дуню Макатунішку, Янука Бахмача, Антося Дзеркача, Кастуся Падгайскага, а таксама сустрэне новых. І даведаецца, што нарэшце...

Але новошта забягаць наперад. Лепш купіць кнігу, а найлепш усе тры й уважна прачытаць іх.

**Цана:** У ЗША — 20 амэр. дал., у Канадзе — 20 кан .дал., у Аўстраліі — 16 дал. Ува ўсіх іншых краінах — 15 кан. даляраў.

**Перасылка — 1 даляр.** „Гаравата" у трох кнігах каштуе 40 дал.

Усе замаўленьні, з папярэдняй аплатай перасылаць на „Зважай":
57 Riverdale Avenue
Toronto, Ont. M4K 1C2
Canada

***

Выйшла з друку кніга ўспамінаў
**Аляксандра Гідоні**

**„СОЛНЦЕ ИДЕТ С ЗАПАДА"**

**выд. „Современник"**

Аўтар успамінаў ,выдатны расейскі паэт, празаік, навуковец, сябра камітэту „Расея без Калёніяў".

Гідоні ведамы нашым чытачом зь „Беларуса".

Кніга — цікавы гістарычны дакумант, што варта кажнаму прачытаць. Мае 536 бачынаў.

**Цана** — 20 дал. Замаўляць у „Зважай".

## БЕЛАРУСАВЕДНЫЯ ДАКЛАДЫ

Р. Мілер, навуковы супрацоўнік пры Гарвардзкім Унівэрсытэце, і Я. Садоўскі ,дацэнт канадзкага ўнівэрсытэту Куінс у гор. Кінгстане, прачыталі даклады на беларускія тэмы на канфэрэнцыі Канадыйскіх Славістаў, якая адбылася ад 29-га да 31-га траўня на канадзкім унівэрсытэце Далгаўзі ў гор. Галіфаксе.

Р. Мілер гаварыў пра „Першую асобу множнага ліку ў беларускіх дыялектах", а Садоўскі пра „Раньніх беларускіх пасяленцаў у Канадзе".

## НА СЬВЯЦЕ Ў ПАЛЯКОЎ

У сыботу 2-га траўня сёлета перад будынкам гарадзкое ўправы ў Лёс Анджэлесе адбылася ўрачыстая праграма, прысьвечаная 190 угодкам польскае канстытуцыі 3-га траўня 1791 году. Др. Альгерд Клейнат, старшыня арганізацыі Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў, выступіў ад імя прадстаўленых у арганізацыі нацыянальнасьцяй, у тым ліку й Беларусаў, з прывітальнай прамовай. У ліку прадстаўленых прысутных прадстаўнікоў паняволеных народаў, як ганаровых гасьцей, быў і беларускі сябра згаданае арганізацыі сп. Ч. Найдзюк.

## АБВЕСТКА

### РАДЫЁ-ВАТЫКАН ШУКАЕ

Ватыканскае радыё ў Рыме шукае кандыдата на заступніка дырэктара беларускае праграмы. Кандыдат павінен мець журналістычныя здольнасьці, добры голас дыктара, унівэрсытэцкую асьвету. Ён павінен добра валодаць беларускаю моваю ды мець шчырае зацікаўленьне ў рэлігійных і культурных справах беларускага народу.

Кандыдат павіне мець здольнасьць вучыцца італьянскае мовы (калі яе яшчэ ня ведае), пажаданая таксама веда францускае ды ангельскае моваў.

Заявы (можна таксама пісаць пaангельску ці пафранцуску) накіроўваць на адрыс:

Direction of Programmes
Vatican Radio
00120 Citta del Vaticano
Europe

### ПАПРАЎКА ПАПРАЎКІ

У грашовай справаздачы ў № 288 „Беларуса" была дапушчаная недакладнасьць, на якую зьвярнуў нашую ўвагу сп. А Лашук. „Сп. М. Чаеўскі й сп-ня Н. Якубовіч, — піша сп. Лашук, — далі грошы замяж вянка ды кветак на магілу сьв. пам. Маргарэты Пэлы" (а было памылкова пададзена, што сп. Чаеўскі даў грошы „на магілу др. Ст. Станкевіча").

Выбачаемся за недагляд.

**Рэдакцыя**

## ПРА ЖАНАТЫХ ДОНЖУАНАЎ

У вадным зь леташніх нумароў газэты „Літаратура й Мастацтва" быў зьмешчаны артыкул Міхася Кенюкі, „Збрэяй сатыры і гумару" пра п'есы Ніла Гілевіча „Не кажы ,гоп' ", „Патрыярхальны Дзядсвіч" і „Першая ноч на курорце". Гэтыя Гілевічавы аднаактоўкі прысьвечаныя, можна сказаць, аднэй тэме — „жанатым донжуанам". „Жанатыя донжуаны" Гілевіча — гэта інтэлігенты, выкладчыкі, вучоныя, кіраўнікі прадпрыёмстваў (савецкая эліта). Трапляючы на курорт, у дом адпачынку або карыстаючыся сваёй службовай пасадай, яны ня цураюцца пусьціцца за чужой жонкай ці маладой дзяўчынай.

Тэма новая, нязвычайная ў беларускай літаратуры, ня так самой праблемай — донжуанства і раней было, бадай, зьявай пашыранай — колькі адлюстраваньнем яе.

Міхась Кенька паддаў у сваім артыкуле крытыцы п'есы Гілевіча. Вось што ён пісаў: „Прачытаўшы п'есы Гілевіча, пачынаеш уяўляць сабе выкладчыка ВНУ, вучонага, як наагул амаральнага тыпа. Ці не занадта перабольшаны сатырычны пафас (Гілевіча), які ў 4 п'есах накіраваны на адну і тую загану?"

Загану гэтую бачыць ня толькі Ніл Гілевіч. У апошніх леташніх нумарох „Маладосьці" былі выдрукаваныя апавяданьні: Уладзімера Саламахі „Чаромха" ды Міхася Барэйшы „Пасьля юнацтва ... увосень" і „Антаноўкі".

Тэмы гэтых твораў — як-бы працяг тэмы Гілевічавых п'есаў. З тэй толькі розьніцай, што ў Гілевіча галоўныя асобы — выкладчыкі, вучоныя, кіраўнікі прадпрыёмстваў — „жанатыя донжуаны", а ў Барэйшы і Саламахі — гэта — студэнты, простыя рабочыя, сярэдняя кляса.

У вапавяданьнях Барэйшы й Саламахі апісваецца зьява „паляваньня" ня толькі на жанчынаў, але й на мужчынаў.

Гэраіня апавяданьня Саламахі „Чаромха", маючы мужа, жыве й зь іншымі мужчынамі. Аўтар яе малюе, як лёгкадумную шукальніцу свабоднага каханьня. Матыў зрады мужу няясны.

Гэрой апавяданьня Барэйшы „Пасьля юнацтва . . . увосень" — жанаты чалавек — зраджвае сваёй жонцы з другой жанчынай, не кахаючы яе. Аўтар у гэтым творы ня скупы на дэталі пры апісаньні гэтай зрады.

Гэраіня апавяданьня Барэйшы „Антонаўкі" жыве із студэнтам Гардзеям, але ня толькі зь ім адным.

Такім чынам, у сучаснай прозе Беларусі зьявіліся не ўласьцівыя ёй дасюль тэмы: сэкс, „жанатыя донжуаны", свабоднае каханьне ды зьвязаныя з гэтым праблемы маралі й этыкі.

Узьнікае, натуральна, пытаньне: чаму Гілевіч, Барэйша, Саламаха зьвярнуліся да гэтых тэмаў? І другое пытаньне: чаму гэтыя зьявы паказаныя гэткімі вульгарызаванымі, я сказаў-бы — вычварнымі?

Ці не перабольшваюць іх гэтыя пісьменьнікі пры паказе ўчынкаў сваіх гэрояў? Здаецца, што не. Наагул-жа, пытаньне гэтае ў нас мала абмеркаванае, слаба высьветленае, чакае на сваіх дасьледчыкаў.

*Дзеяньне ў аднаактоўках Гілевіча* ды ў вапавяданьнях Саламахі й Барэйшы адбываецца на курорце, пасьля працоўнага дня. У іх чытач ня знойдзе вытворчых працэсаў. Сюжэт пачынаецца ад таго, калі чалавек дастае свой гадавы адпачынак або, прастаяўшы працоўны дзень ля канвэеру, аддадзены самому сабе. Вольны ад службовых абавязкаў, ад працы час, хавае ў сабе, як мы бачым з гэтых твораў, пагрозу маральнаму вобліку вучоных і рабочых — гэрояў п'есаў ды апавяданьняў Гілевіча, Барэйшы й Саламахі. І гэтая пагроза ня толькі для асобы ў Савецкім Саюзе, але й для асобы наагул. Праблема донжуанства, зрады жонцы, мужу — праблема агульналюдзкая як і алькагалізм, злачыннасьць. Наяўнасьць гэтых тэмаў у сучаснай беларускай літаратуры паказвае на тое, што праблема гэтая існуе і ў грамадзтве гэтак званага „разгорнутага" ці „дасьпелага" сацыялізму. І добра, што пісьменьнікі пачалі зварачацца ад вытворчых працэсаў да самога чалавека, пачалі прыглядацца, чым вызначаецца ягоны духовы стан, як чалавек запаўняе паўзу паміж канцом і пачаткам працы. Сучасная літаратурная праблематыка пашыраецца, літаратура вызваляецца крыху ад накінутага ёй вузкога разуменьня „сацыяльнага заказу", бо-ж чалавек жыве ня толькі сваёй працай.

Зварот Гілевіча, Барэйшы, Саламахі ды іншых да этычнага боку жыцьця асобы, да дачыненьняў паміж жонкай і мужам, мужчынам і жанчынай, і ўпаасобку да дэградацыі гэтых дачыненьняў, адчыняе новую старонку ў літаратуры, старонку ,якая пашырае кола пытаньняў, узбагачае літаратурны працэс, абяцае прыцягнуць да сябе больш чытачоў, паглыбіць іхнае зацікаўленьне да літаратуры.

Варочаючыся да тэмы „жанатага донжуанства", само напрошваецца пытаньне: чаму-ж так лёгка адбываецца зрада у гэрояў п'есаў Гілевіча ды апавяданьняў Барэйшы й Саламахі?

Трэба адзначыць перш-наперш, што асобы, якіх паказваюць нам аўтары, маральна нявытрыманыя. У іх, у моц розных прычынаў, ня выпрацавалася пачуцьця абавязку перад сям'ёй. Да гэтых прычынаў трэба залічыць нястачу адпаведнага палавога выхаваньня моладзі. Праблема гэтая абыходзіцца маўчаньнем, пачынаючы ад школьнай лаўкі аж да інстытуту ды акадэміі. Што, прыкладам, малады чалавек такі як Гардзей у вапавяданьні Барэйшы, ведае пра дачыненьні паміж мужчынам і жанчынай? Сваё дазнаньне ён здабыў ад аднакурсьнікаў, якія проста раней за яго пачалі спаць з жанчынамі.

Іншая цімалаважная прычына ў тым, што чалавека ў сужэнсьцьве нічога ня зьвязвае. Ён ня верыць у Бога, у імя якога замацоўваецца сям'я. Шлюб у Савецкім Саюзе зьведзены толькі да аднаго росьпісу ў Загсе. Духовых бар'ераў, якія стрымвалі-б сям'ю ад развалу няма. Ці не падахвочвае гэта да донжуанства, да зрады жонцы або мужу?

Тэма донжуанства, сэксу, дачыненьня паміж мужчынам і жанчынай — складаная тэма. Апрача гэтага, жывучы ў несвабодзе у вабставінах раздвоенасьці (у савецкім грамадзтве існуе афіцыйная вэрсія рэчаіснасьці і запраўднасьць, што вельмі адрозная ад гэтае афіцыйнае вэрсіі) чалавек прывыкае да думкі, што і мараль і этыка таксама няхай сабе існуюць афіцыйна, а рэчаіснасьць можа быць такою, якую падказваюць эгаістычныя інстынкты й жарсьці.

**Алесь Васілеўскі**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**У траўні 1981 г. паступілі ў касу падпіска й ахвяры:**

### I. ЗША

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

1. М. Чатырка (ахвяра) .... $ 30.00
   М. Чатырка (падпіска) .. 10.00
2. М. В. М. ........ 25.00
3. В. і М. Богдан ........ 20.00
4. А. Ліхач ........ 20.00
5. Н. і В. Сьнежка ........ 20.00
6. П. Мельяновіч ........ 10.00
7. Г. і Ю. Мінкевіч ........ 10.00
8. Я. Юхнавец ........ 5.00
9. Я. Яновіч ........ 5.00

**Разам: $ 155.00**

**Пераслана прадстаўніком газэты „Беларус" у Нью Джэрзі сп. Б. Даніловічам:**

1. Аддз. БАЗА ў Нью Джэрзі $40.00
2. К. Колбік ........ 20.00
3. В. Стома ........ 20.00
4. Д. С. ........ 20.00
5. І. Люты ........ 20.00
6. А. Супрун ........ 20.00
7. П. Кажура ........ 20.00
8. К. Стрэш ........ 15.00
9. А. Непеін ........ 15.00
10. П. Орса ........ 12.00
11. В. Кабушка ........ 10.00
12. М. Мядзейка ........ 10.00
13. К. Мірановіч ........ 10.00
14. М. К. ........ 10.00
15. І. Цупрык ........ 10.00
16. Парахвія ў Гайлэнд Парку 10.00
17. Ю. Азарка ........ 10.00
18. Я. Груцько ........ 5.00
19. І. І. ........ 5.00

**Разам: $ 282.00**

### II. АЎСТРАЛІЯ

**Пераслана прадстаўніцай газэты сп-няй А. Каранеўскай:**

1. М. Мілеўскі ........ аўстр. дал. 37.00
2. П. Грыцай ........ 27.00
3. В. Васіленя ........ 12.00

**Разам: 76.00 аўст. дал.**
**у амэрыканскай валюце: $ 85.50**

4. Падпіска на „Беларуса" сп-тву Найдзюком (ад А. Каранеўскай) $ 10.00

**Разам: $ 95.50**

**Пераслана сп. М. Ніканам з Мэльбурну:**

1. М. Максымаў .... аўст. дал. 15.00
2. Т. Корбут ........ 15.00

**Разам: аўстр. дал. 30.00**
**У амэрыканскай валюце: $ 34.08**

**Усяго разам з Аўстраліі: $ 129.58**

### III. АНГЛІЯ

**З Ангельшчыны** атрыманы ад Беларускага Клюбу чэк на **$71.11** (амэр. дал.)

### IV. ФРАНЦЫЯ

1. Інж. Л. Шыманец ,Парыж $ 32.50
2. Сп. М. Наумовіч, Парыж ....25.00

**Разам: $ 57.50**

**Усяго разам у траўні: $ 695.19**

***

**У чэрвені 1981 г. паступілі ў касу падпіска і ахвяры:**

### I. ЗША

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

1. Б. Дубоўскі ........ $ 30.00
2. Радыёстанцыя „Свабода" за абвестку ........ 25.00
3. М. В. М. ........ 25.00
4. В. Бакуновіч ........ 20.00
5. В. Косараў ........ 20.00
6. І. Гуткоўскі ........ 15.00
7. Д. Яська ........ 10.00
8. В. Ярашэвіч ........ 10.00
9. В. Т., Нью Ёрк ........ 20.00

**Усяго разам за чэрвень: $ 175.00**

**Усім ахвярадаўцам і падпісчыкам шчырае дзякуй!**

**Рэдакцыя**

# BIEŁARUS

Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P.O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431. Price per copy: $1.00, subscription $10.00 per year.


## NONSENSE ABOUT BYELORUSSIA IN HIGH PLACES

Helene Carrere d'Encausse is Professor at the Institute of Political Science in Paris and head of the section of the USSR in the Center of International Relations of the University of Paris. She is the author of a well received book, **L'Empire Eclaté** (1978) which has already had three printings in the United States under its English title, **Decline of an Empire: The Soviet Socialist Republics in Revolt** (transl. by M. Sokolinsk and H. A. La Farge, New York: Newsweek Books, 1980).

In her conclusions, speaking of three different groups of national communities in the Soviet Union, she starts with those "that show a tendency to grow weaker". Prof. Carrere d'Encausse writes the following:

"The Belorussian nation can probably be placed in this category, in spite of the fact that at different times in Soviet history it has shown particularist tendencies. But having been **set up artificially and given a language without historical justification** (emphasis added—A.B.), and being too close to Russia in its effort to differentiate itself from Poland and Lithuania, Belorussia has been more subject to Russian influence than other nations."

The distinguished savante obviously has not done her homework as far as Byelorussia's history and her language are concerned. If Professor d'Encausse had read fully what she quotes in one of her chapters, viz., Jan Zaprudnik's "Belorussia and the Belorusians's" in the **Handbook of Major Soviet Nationalities** (prepared by Massachusetts Institute of Technology and published by The Free Press in New York in 1975, ed. by Zev Katz **et al.**) she could have learned the following (p. 54):

"The cities of Polotsk, Turau, Vitebsk, and Pinsk with their churches and monasteries became centers of literacy, education and artistic creativity. The activities and writings of St. Euphrosyne of Polotsk, St. Cyril of Turau, and the highly developed and original architecture stand as best evidence of the achievements of medieval Belorussia.

"In the sixteenth century 'in the Grand Duchy of Lithuania Belorussian was the language of official business and legal procedures, as well as literary works and religious polemics' (footnote: Belorussian Soviet Encyclopedia, v. III, p. 237)."

Similar evidence can be adduced from innumerable authoritative scholarly sources disproving Prof. d'Ensausse's fable that the Byelorussians were "given (!?) a language without historical justification."

This is truly a remarkable concept, and one utterly unknown to the scholarly world: that an autonomous, fully-developed language could emerge—like Venus—and somehow be "given" to a nation for whom it was until then unknown.

But more seriously, dozens of scholars, among them Lithuanian, Polish and Russian, in several different branches—linguistics, history, and law among them—testify to the existence, uniqueness, and antiquity of the Byelorussian language.

Madame d'Encausse had done serious damage to her credibility by resorting to such fatuous, discredited ideas.

**A. Budzič**

## M. KUKABAKA'S DEFENSE SPEECH

The Byelorussian dissident worker Michal Kukabaka, who is still in prison, was denied the right to have a defense lawyer of his choosing at his trial in the city of Babrujsk on June 20-21 1979. Michal defended himself. The following excerpt from his speech was read in Byelorussian and English by Mr. George Kipel and Ms. Vera Zaprudnik at the demonstration in New York on June 21, 1981, marking the second anniversary of Michal Kukabaka's unlawful trial:

"Comrade Prosecutor:

I maintain that the testimony against me has been fabricated. No, I don't consider myself guilty. I categorically reject my indictment. My beliefs and my articles are a result of my life experience and deep reflections of what's going on in our land. As far back as 1970, I was subjected to repressions for my beliefs and spent seven years in confinement. For refusing to collaborate with the KGB I was called insane and incarcerated in a special psychiatric hospital.

To understand one's actions means to have beliefs. And you understand yourself that a man who spends his entire life in prisons for his beliefs cannot be a criminal.

Let me point out that the trial against me contradicts the Universal Declaration of Human Rights. Let me call your attention to the fact that in 1977 I made the grave decision to leave the Soviet Union. Long ago I came to the conclusion that Communism of the Soviet kind is a system of coercion and general destruction. All communist leaders, from Lenin on, have carried on a policy of interference in the internal matters of other nations, with the purpose of imposing upon them a dictatorship similar to theirs.

The Muscovite rulers are able to go as far as starting a new war. This is evident from the continuous militarization of the land, indoctrination of the people in a military-patriotic spirit, the universal military draft, various children's games, and the like. And the government strives to destroy the slightest opposition to its plans within the country.

Because I have renounced the communist ideology I decided to leave the USSR. I consider living in this country to be immoral. For anything that I do makes me an accomplice of its policies, its campaign of militarization; because each ruble I earn by my work is spent on this militarization which I renounce."

## "THE BEAUTIFUL BYELORUSSIAN EXHIBIT"

The Byelorussian-American Association having participated in the Penn State Slavic Folk Festival (see report by Raisa Stankievic in the previous issue of **Bielarus**, in Byelorussian) has received recognition in the form of a letter from Professor Lorraine T. Kapitonnoff, Festival Coordinator, which says in part:

"The beautiful Byelorussian exhibit was very well received and certainly enhanced the Festival a great deal. We were delighted to welcome representatives of the Byelorussian-American Association who were very helpful in answering the many questions of those who attended the Festival. We are sure that through the efforts of these people the public has become better acquainted with the beautiful Byelorussian cultural contributions. We would also like you to know that the lovely doll which was presented to us is now in our permanent collection of artifacts.

We hope that you again participate in next year's Festival and perhaps bring some of your singers and dancers along with your exhibit.

We are pleased to tell you that the Fourth Annual Festival is scheduled for April 23rd and 24th of 1982 at the Robeson Cultural Center in Walnut Building on the Penn State Campus."

## A HISTORY OF THE BYELORUSSIANS

**by John Sadouski**

Professor Sadouski traces the story of the Byelorussians in Canada. Along with the other ethnic groups that make up the Canadian mosaic, they have played an important part in settling and developing the country. The author depicts a people that is in the process of developing a sense of group identity distinct from other East Slavs. It is a people becoming aware of its distinctive literature and culture, proud of its accomplishments in Canadian economic life and the arts; it is a people striving in multicultural Canada to preserve a heritage threatened by russification at home.

Hardcover illustrated, indexed, 140 pgs.
Price: $12.00.
Publisher: MIKA PUBLISHING CO.
200 Stanley St.
Belleville, Ont. CANADA




United States of America

# Congressional Record

PROCEEDINGS AND DEBATES OF THE 97th CONGRESS, FIRST SESSION


# BYELORUSSIAN INDEPENDENCE MARKED IN U.S. CONGRESS

(Continued from the previous issue)

### BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY

**March 31, 1981**

Sen. DOLE. Mr. President, on March 29, the Byelorussian-American community in Brooklyn held a rally to commemorate the 63rd anniversary of the proclamation of the Byelorussian Democratic Republic which took place in Minsk, the capital of Byelorussia. Byelorussian-Americans in my home State of Kansas and every other State of the Union joined in this celebration, if only in spirit.

Sixty-three years ago the citizens of Byelorussia savored the taste of freedom and independence following the fall of the Tsarist Russian empire. Almost immediately, the Government of the new independent Byelorussian Republic began to organize the national and local administration, the education system, the cultural activities, the restoration of the war-torn economy, and the formation of the national military forces. It also began intensive diplomatic activities abroad.

This brief experiment with freedom was not permitted to continue. The Soviet Union, during a period of Soviet expansionism, proclaimed its new colonial state, the Byelorussian Soviet Socialist Republic. Although the Byelorussian national armed forces staged a gallant struggle and made desperate but vain appeals for aid from abroad, they were soundly defeated.

Since that time, the Soviet Union, in violation of the Helsinki agreement, has continued to deprive the Byelorussian people of the human rights it pledged to observe under the Helsinki accord. Russification efforts have been aimed at stripping Byelorussia of its cultural and ethnic heritage. As is typical in Soviet-claimed territory, individuals continue to be imprisoned for speaking out on behalf of human rights. Nevertheless, the people of Byelorussia steadfastly continue to resist these Russsification efforts, and to remind Moscow of its commitment to honor the Helsinki accord — even under threat of imprisonment and persecution.

#### Soviet Troops in Byelorussia Prepared to Invade Poland

Byelorussia has been targeted as the westernmost site of Russian expansionism. As a result, Moscow has been conducting a fierce campaign of russification there aimed at the destruction of Byelorussian national identity. As Soviet troops stand poised to invade Poland, the geopolitical importance of Byelorussia becomes evident. There are currently Soviet troops stationed in the Byelorussian cities of Grodno and Brest who may be assigned to such an invasion.

#### Voice of America Broadcasts

Needless to say, it is in the national security interests of the United States to prevent Soviet expansion. These interests are best served when the citizens of captive nations within the Soviet Union are informed of the nature of Soviet expansionism and the vitality of their respective cultural heritage in the United States. The Voice of America provides one means of communicating this information. Although the Voice of America does not currently broadcast to the Soviet Union in the Byelorussian language, the Byelorussian-American Association has asked me to lend my support to that goal.

Mr. President, I ask unanimous consent that a portion of the resolution adopted at the Byelorussian rally be printed at this point in the **Record**.

***

"The Byelorussian language, the language of one of the largest nationalities in the USSR and one of the oldest ethnic groups in the United States, is being discriminated against by the Voice of America, which does not include the Byelorussian language in its programming. We, the participants of this rally, wish to once again express our long-standing frustration with this discrimination. We ask that the administration of the VOA and other concerned Government agencies recognize the inequity and unsoundness of VOA policy in this matter and move to include the Byelorussian language in VOA programming. Inclusion of the Byelorussian language in VOA broadcasts would foster closer relations with the Byelorussian people and the Byelorussian-American community.

***

Mr. President, this Senator thinks it would well serve our national security interests, especially during the present wave of Soviet expansionism, to investigate the inclusion of broadcasts in the Byelorussian language in future VOA programming.

HON. HENRY J. HYDE
of Illinois
in the House of Representatives

Wednesday, April 1, 1981

● Mr. HYDE. Mr. Speaker, there are an estimated 1½ million Americans of Byelorussian descent in the United States, about 100,000 of whom live in the Chicago area. On March 25 the Byelorussian American communities commemorated the 63d anniversary of the proclamation of the Byelorussian Democratic Republic which took place in Minsk, the capital of Byelorussia, on March 25, 1918.

As Chicago Tribune reporter Barbara Brotman pointed out in a recent article, few Americans really know what Byelorussia is. Her March 26 column on Chicago's Byelorussians is interesting and helpful in understanding the plight of the Byelorussians and I am very pleased to share it with my colleagues as we commemorate this important anniversary:

Independence Brief, But Chicago's Byelorussians Remember
(By Barbara Brotman)

On Sunday, Vera and Witold Romuk, Father Vladimir Tarasevitch, and their compatriots in the Chicago area will celebrate their Fourth of July. It is the 63d anniversary of the declaration of Byelorussian independence, but the speeches and proclamations may lack a little celebratory oomph: Byelorussia's independence, declared on March 25, 1918, lasted only nine months.

But that little sliver of 20th-Century freedom, sandwiched between German occupation and Russian occupation, is a cherished memory for the estimated 100,000 Byelorussian emigres in the Chicago area. "This is not the same as your Fourth of July," said Father Vladimir, who admits that the chances for regaining independence are slim. "But in a spirit of hope and prayer, it's a goal we are trying to attain; something we had and would like back."

Few Americans really know what Byelorussia is, and it might be easier to begin the explanation by saying what Byelorussia is not. It is not Russia. Byelorussian emigres are most emphatic on that point; in fact, some call the place Bielarus to differentiate it from Russia.

It is the homeland of a Slavic people who trace their ancestry to the settlement of tribes around the 6th century. In the Middle Ages, the area became a feudal principality called Polacak, and later was at the heart of the Grand Duchy of Litva, or Lithuania, an empire much larger than present-day Lithuania. In 1795, an expansionist Russia took over Byelorussia as well as other formerly independent Slavic and Baltic states. (...)

Vera Ramuk remembers: (...) "I was 8 when the Russians came, 10 when the Germans came. Life was like a hell," she said. "In the daytime, you would see the villages set on fire by the Germans, because at night Russian guerrillas would come out of the forest and set mines. We were caught between fires."

Her family eventually fled to Germany, where her parents and older brother worked first sewing army uniforms, then cutting leather for holster, before emigrating to the United States in 1957.

By the time Romuk, now 49, graduated from high school, she had attended schools run by the Poles, Russians, Germans, Lithuanians, and Byelorussians. Only the Germans allowed Byelorussian-language schools. But her family and other Byelorussian emigrants retained a fierce love of their folk culture, of Slavic cross-stitching on white aprons, of woven blankets, and straw-inlaid boxes.

Their organizations—and the Bielorussian Coordinating Committee of Chicago (of which Romuk is secretary) incorporates three of them, including a youth group—are dedicated to preserving that culture. An exhibit of their wares at the Daley Center runs through Friday, commemorating the independence anniversary.

But there is a distinctly political side to their activities. American Byelorussians say that in supporting independence from the Soviet Union, they are speaking for their friends and relatives in Byelorussia who cannot express their views.

"When I was 12 years old and I left Byelorussia, my relatives said, 'As long as you are alive, you must speak out for us,'" Romuk said. "They should worship freely, move freely—whatever system they want, let them decide. But let Minsk (the capital of Byelorussia), not Moscow, decide for the Byelorussian people.

"It would be foolhardy to say to the Byelorussians, 'We're coming to rescue you,'" said Father Vladimir. "But what is hoped is that through such groups there will be relaxation, freedom of movement between our country and Western countries, freedom to visit friends and relatives."

Romuk said Russian authorities are quite aware of groups such as hers, which exist in London, New York, Cleveland, Detroit, Los Angeles, Colorado, and Canada. She said that in the Soviet press she has been called a swine and a prostitute for the Germans, and that neither she nor her 21-year-old daughter dare return to Byelorussia, lest they be detained.

Father Vladimir stays in the U.S. for other reasons. He can find no other Byelorussian Catholic priest to replace him. He was recalled from studies in Rome to replace his late uncle as pastor of Christ the Redeemer Church, founded by his uncle in 1955. The building is a converted insurance company firehouse on West Fullerton and is the only Byelorussian Catholic Church in the Western Hemisphere: two-thirds of Byelorussians are Orthodox.

If the young people speak Byelorussian, it is with an American accent, he said, and there are those, who say Byelorussian churches like his and St. George Byelorussian Orthodox Church have outlived their usefulness.

Still some young people are changing their names from Anglicized versions to the Byelorussian originals. And the older generation keeps the faith, campaigning for the homeland, patiently explaining the difference between Byelorussia and Russia. "We fought with the newspapers to identify Olga Korbut as Byelorussian," Romuk sighed, "but they didn't listen."

Romuk and the others don native dress and get their pictures taken with politicians on independence day; the mayor and governor issue proclamations of Byelorussian Independence Day; the faithful publish Byelorussian newsletters, historical monographs, and samizdats. They keep in touch with the Catholic bishop-in-exile, who lives in London, and the Byelorussian president-in-exile, in Ontario, Canada.

Romuk and her husband, pediatrician Witold Romuk, say there is a strong dissident movement in Byelorussia. "And we heard there were strikes last June," Dr. Romuk said hopefully.

They even count the United Nations seat of Byelorussia, a founding member, as a victory, although Byelorussia votes with the Soviet Union. "Culturally it's important." Vera Romuk said, "At least they can't deny the country exists."●